
VERTIGO
issue 11 may 03
WILLINGHAM
TALBOT
"...one of the hottest series of the year..." — WIZARD
FABLES
vertigocomics.com
COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
ПАДАННІ #11
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 3



























Мабыць гэта гісторыя і сапраўдная, а мабыць і не, але яна пра старога хітрага Джэка з казак, які быў знаходлівым у старым свеце і працягнуў быць такім, калі пайшоў за намі ў гэту краіну.

Амерыканскія казкі пра Джэка

Калі навала янкі вылілася ў вайну... якую неадукаваныя асобы працягваюць называць Амерыканскай Грамадзянскай вайной... Джэк, вечна няўрымслівы тып, падумаў, што ён можа атрымаць карысць з такой велізарнай прыгоды.

Ён думаў, ці зможа ён ажаніцца з багаценькай прыгажуняй з жыхароў поўдня, калі ён заваяваць славу ў бітвах.

Такім чынам, надаўшы сабе выгляд джэнтльмэна і вывучыўшы выцянчаную манеру гаворкі, Джэк паехаў на поўдзень, схлусіў пра некаторыя выдуманыя маёнткі і арыстакратычныя сувязі, каб запісацца дабраахвотнікам ад Луізіяны ў якасці капітана пяхоты.


ШТО Ж, ДЖЭК ТАК І НЕ ЗАВАЯВАЎ СВАЮ СЛАВУ, ТАМУ ШТО ВАЙНА НЕ ПЕРАВЯРНУЛАСЯ ТАК, ЯК ТРЭБА... ПРЫНАМСІ, НЕ ДЛЯ ПАЎДНЁВЫХ АРЫСТАКРАТАЎ.


Мяшок з косткамі
СЦЭНАР:
БІЛ УІЛІНГХЭМ
ІЛЮСТРАЦЫЯ:
БРАЯН ТАЛБАТ
ЛЭТЭРЫНГ:
ТОД КЛЯЙН
КОЛЕР І СЕПАРЫРАВАННЕ:
ДАНІЭЛЬ ВОЗО
ВОКЛАДКА:
АРАН ВАЙЗЕНФЕЛД
АС. РЭДАКТАРА:
МАРЫЯ ХОХНЭР
РЭДАКТАР:
ШЭЛІ БОНД
ПАДАННІ СТВОРАНЫ
Б. УІЛІНГХЭМАМ
ГЭТА ГІСТОРЫЯ БЫЛА СТВОРАНА СПОСАБАМ АДАПТАЦЫІ ПАРЫ КАЗАК ПРА ГОРНАГА ДЖЭКА З АМЕРЫКАНСКАГА ФАЛЬКЛОРУ. ПА САПРАЎДНЫХ ТРАДЫЦЫЯХ ВУСНАГА ФАЛЬКЛОРУ, ЯНЫ БЫЛІ ВЕЛЬМІ ЗМЕНЕНЫ ПАД МАІМ ЧУЙНЫМ НАГЛЯДАМ. ГЭТА З'ЯЎЛЯЕЦЦА ВЕТЛІВЫМ СПОСАБАМ СКАЗАТЬ, ШТО Я СЦЯГНУЎ УСЁ, ШТО ЗМОГ ВЫКАРЫСТАЦЬ, ЗМЯНІЎ НЕКАЛЬКІ РЭЧАЎ, КАБ ЗАДАВОЛІЦЬ СВАЕ КАПРЫЗЫ І ПРЫДУМАЎ УСЁ АСТАТНЯЕ. -БІЛ.
ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ
The_Devastator scan


КАЛІ ДЖЭКУ СТАЛА ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ПОЎДЗЕНЬ ПРАЙГРАЎ, ЁН ЗМАНІЎ ПРА ПАМІРАЮЧУЮ МАЦІ, КАБ РАНЕЙ АТРЫМАЦЬ АДСТАЎКУ.
ВЫБІРАЙСЯ, ХЛУСЛІВЫ ТЫ **ШЭЛЬМА**.
ПАДАЗРАЮ, ШТО ПАЛКОЎНІК **НАВАТ** БЫЎ РАДЫ АДПУСЦІЦЬ ДЖЭКА, ТАМУ ШТО ТОЙ СПРЫТНА АБЫХОДЗІЎСЯ З КАЛОДАЙ КАРТ, І ПАЛКОЎНІКУ НАДАКУЧЫЛА ЗАЎСЁДЫ ПРАЙГРАВАЦЬ ЯМУ СВАЁ ЖАЛАВАННЕ.
НУ ВЫ ЎСЕ БУДЗЬЦЕ АКУРАТНЕЙ.
ІДЗІ ПА ДАРОЗЕ, ДЖЭК. ГЭТА ДАЎЖЭЙ, АЛЕ БЯСПЕЧНЕЙ.
НЕ ЗРАЗАЙ ПРАЗ БАГНУ, ТАМ ВЯДУЦЦА **ЎСЯЛЯКІЯ** ЗЛАСЛІВЫЯ СТВАРЭННІ МОЖАСТВАВАЦЬ І САМАВЫЙ **СЛІЗКІ НІК**.
СРЫСЯ ЯНО АГНЁМ, МАЛЫ, Я НЕ СПУЖАЮСЯ НІЯКІХ ПРЫВІДАЎ.

МАБЫЦЬ ЁН І САПРАЎДЫ НЕ БАЯЎСЯ, А МАБЫЦЬ УХІЛЯЎСЯ АД ДАРОГІ, ТАМУ ШТО ЯНА БЫЛА НАВАТ ЯШЧЭ БОЛЬШ НЕБЯСПЕЧНАЙ. РАЗНАСТАЙНЫЯ БАНДЫ РАЗБОЙНІКАЎ, ДЭЗЕРЦІРЫ, ЯКІЯ ПЕРАЙШЛІ НА ДРУГІ БОК, І ТЫЯ, У КАГО СПРАВЫ НІКОЛІ НЕ ІШЛІ ДОБРА ЗАПАЛАНІЛІ Ў ТЫЯ ДНІ ПОЎДЗЕНЬ, ЯКІ РАЗВАЛЬВАЎСЯ. ЯКОЙ НІ БЫЛА Б ПРЫЧЫНА, ДЖЭК ЗРЭЗАЎ ПРАЗ БАГНУ.

АХ, ЛАРЭНА, МЫ КАХАЛІ БОЛЕЙ, ЧЫМ СКАЗАЦЬ МЫ АДВАЖВАЛІСЯ...

НУ, КАБ СТАЦЬ МНЕ МУЛАМ-ЯЙКАСМОКАМ.

ШТО ТАКІ СТАРЫ ПРАСЦЯК ЯК ТЫ РОБІЦЬ У АДЗІНОЦТВЕ ПАСЯРОД БАГНЫ?

ПАГУЛЬВАЮ Ў ПОКЕР ТУТ САМ З САБОЙ, КАБ АДХІЛІЦЦА АД ПАРОЖНЯГА ПУЗА.

ПЕРАДЫХНІ-КА ТУТ, ЮНАК, І ЗГУЛЯЙ СА МНОЙ ПАРУ ПАРТЫЙ, МАБЫЦЬ Я ЗМАГУ ВЫЙГРАЦЬ У ЦЯБЕ ШТОСЬЦІ З ТВАІХ СМАЧНЫХ **ПРАДУКТАЎ.**

НУ БЕЗУМОЎНА ПОКЕР МНЕ ПАДАБАЕЦЦА, АЛЕ МНЕ ЗДАЕЦЦА, ПА ТВАЙМУ ВЫГЛЯДУ, ШТО Ў ЦЯБЕ НЯМА НІВОДНАЙ РЭЧЫ, КАБ ПАСТАВІЦЬ НА КОН.

ХТО Ж ВЕДАЕ? МАБЫЦЬ Я СУЦЭЛЬНЫ СІЯМСКІ КАРОЛЬ І Ў МЯНЕ ЁСЦЬ УСЯЛЯКІЯ СКАРБЫ, СКЛАДЗЕНЫЯ ТУТ У МАІМ МЯШКУ. ТЫ СТАЎ, ШТО ПАЖАДАЕШ, А Я Ж ПАСПРАБУЮ АДКАЗАЦЬ.

НУ, НАПЭЎНА, ГЭТА ПАДЫДЗЕ. РАЗДАВАЙ.

ТВАЯ СТАЎКА, ЮНАК.

Я ПАЧНУ З БУЛКІ ХРУМСТКАГА СВЕЖА-СПЕЧАНАГА ХЛЕБА.

СТАЎЛЮ НА ТОЕ, ШТО ТЫ, ЗРАЗУМЕЛА, ЖАДАЕШ ГЭТА ВЫЙГРАЦЬ, А?

ГЭТА БЫЛА АДНА З КАРТАЧНЫХ ГУЛЬНЯЎ, ЯКАЯ БЫЛА НЯ ВЕЛЬМІ ДОБРАЙ ДЛЯ НАШАГА ХЛОПЦА ДЖЭКА. СТАРЫ ХУДЫ БАЛОТНЫ ПАЦУК ПРАВЕЎ ЧАРАДУ ГУЛЬНЯЎ, ЯК СТАРЫ КАРОЛЬ ДЭВІД ПРАХОДЗІЎ ЧАРАДУ ЖОНАК. УСЁ БЫЛО ПРЫЕМНА І ЯНЫ ПАДАБРАЛІСЯ ДА СКАНЧЭННЯ.

ЗНОЎ ТВАЯ СТАЎКА.

Я ВЕДАЮ! Я **ВЕДАЮ** ГЭТА! ТАБЕ НЯ ТРЭБА ЗАЎСЁДЫ НАГАДВАЦЬ МНЕ ЗНОЎ І ЗНОЎ. Я СТАЎЛЮ СВОЙ АПОШНІ ЧАРАВІК СУПРАЦЬ ТАГО, КАБ АТРЫМАЦЬ НАЗАД ІНШЫ.

І Ў ГЭТЫ РАЗ Я ЦЯБЕ **АДПЯРДОЛІЎ**, ТЫ СТАРЫ РАЧНЫ ПІРАТ, ТАМУ ШТО Ў МЯНЕ ФУЛ ХАЎС, КАРАЛІ І ТРЫ ТРОЙКІ.

ГЭТ БЕЗУМОЎНА ДОБРЫЯ КАРТЫ, ХЛАПЕЦ, АЛЕ ЧАТЫРЫ МАЛЕНЬКІЯ ДВОЙКІ ЎСЁ ЯШЧЭ ТРОХ ЛЕПЕЙ.

ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ! ТЫ МЯНЕ **АБЧЫСЦІЎ**, СТАРЫ ГАК!

НЕ ЖАДАЕШ БОШ ЗГУЛЯЦЬ?

ЯК? У МЯНЕ НІЧОГА НЯМА АКРАМЯ МАІХ **ПОРТАК**, І Я НЕ ЗБІРАЮСЯ БАДЗЯЦЦА ПА БАЛОЦЕ, ЗІХАЦЯЧЫ **ГОЛАЙ ДУПАЙ**!

ГЭТА НЯ **ЎСЁ**, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ, ХЛАПЕЦ, У ЦЯБЕ ЯШЧЭ ЁСЦЬ ТВАЯ **ДУША**.

ЯК НАКОНТ ТАГО, КАБ МЫ ЗГУЛЯЛІ ЯШЧЭ АДЗІН АПОШНІ КОН? ТВАЯ ДУША СУПРАЦЬ УСЯГО, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ, МАЕ І ТВАЕ РЭЧЫ РАЗАМ.

ДЫК ВОСЬ ЯНО ШТО. ТРЭБА БЫЛО АДРАЗУ ПАЗНАЦЬ ЦЯБЕ, СПАДАР СЛІЗКІ*.

ДЗЕ Ж ТВАЕ РОГІ І ХВОСТ, І ПАДКАВАНЫЯ **КАПЫТЫ**?

*СЛІЗКІ НІК (SLICK NICK) – АДНО З ФАЛЬКЛОРНЫХ МЯНУШАК Д'ЯБЛА Ў ЗША.

















*У АНГЛІЙСКАЙ МОВЕ КАРТАЧНЫ ВАЛЕТ ПІШЫЦЦА І ЧЫТАЕЦЦА ЯК ДЖЭК (JACK), ЯК І ІМЯ НАШАГА ГЕРОЯ.


СТАРЫ НІК ТАК НІКОЛІ І НЯ ВЫСВЕТЛІЎ, ЯК ЯГО АБХІТРЫЛІ. НЕКАТОРЫЯ КАЖУЦЬ, ШТО ДЖЭК ПРОСТА БЫЎ НАЙЛЕПШЫМ АШУКАНЦАМ.
МНЕ ДА ГОРАДА СКАКАЦЬ ДЗЕСЬЦІ ЯШЧЭ МІЛЬ ПЯЦЬ....
ОЎДАДОДАДЭЙ!


КАЛІ ДЖЭК ЗАЛАЗІЎ ГЛЫБОКА НА ДНО ШКЛЯНКІ, ЁН ПАЧЫНАЎ ХВАЛІЦЦА, ШТО НЕ БЫЛО ТАКОЙ КАЛОДЫ КАРТ, З ЯКОЙ ЁН НЯ ЗМОГ БЫ, КАЛІ Б НІ ПАДАЖАЎ, РАЗДАЦЬ САБЕ ЧАТЫРЫ ВАЛЕТЫ.
ЧОРТ, У ПАРУ!


КАЖЫЦЕ КОЛЬКІ ЖАДАЕЦЕ ПРА СТАРОГА СЛІЗКАГА НІКА... ЁН НІКОЛІ НЕ ПАРУШАЎ ЗРОБЛЕН-НАЙ ЗДЗЕЛКІ. ЁН СКАЗАЎ ДЖЭКУ ЧАРАДЗЕЙНЫЯ СЛОВЫ, З ДАПАМОГАЙ ЯКІХ ЁН МОГ ПЕРАМЯСЦІЦЬ КОЖНУЮ РЭЧ У МЯШОК, ЯКІ НІКОЛІ НЕ ЗАПАЎНЯЎСЯ.
СЮДЫ, СВІНКА.
КЛІКЕЦІ КЛОК! ХУТЧЭЙ У МОЙ МЯШОК!


WHOOOOOOOOOSH!


ТЫ БУДЗЕШ МАЁЙ **ВЫДАТНАЙ** І ВЫТАНЧАНАЙ ВЯЧЭРАЙ, СПАДАРЫНЯ СВІНКА.


І МАБЫЦЬ МНЕ ПАШАНЦУЕ ДВОЙЧЫ І Я ЗНАЙДУ ТУТ КАГО-НЕБУДЗЬ, ХТО МНЕ ЗГАТУЕ.


ПРЫВІТАННЕ!
ДОБЛЕСНЫ ВОІН-**ГЕРОЙ** З'ЯВІЎСЯ! ХТО-НЕБУДЗЬ ДОМА?
ХТО-НЕБУДЗЬ ВАЛОДАЕ ГЭТЫМІ СЛАЎНЫМІ ТЛУСТЫМІ КУРАНЯТКАМІ?


ТАДЫ НІХТО І НЯ СУПРАЦЬ, КАЛІ Я ПАРАЧКУ ПРЫБЯРУ САБЕ.
СЮДЫ, ЦЫП-ЦЫПА!
КЛІКЕЦІ КЛОК! ХУТЧЭЙ У МОЙ МЯШОК!


ЭГЕЙ!


ДЖЭК ЗНІЗУ ДАВЕРХУ АБШУКАЎ АСАБНЯК У ПОШУКАХ КАГО-НЕБУДЗЬ, ХТО ЗМОЖА ПАВІТАЦЬ ЯГО І ЗГАТАВАЦЬ ЯМУ ВЯЧЭРУ.
НЯЎЖО НІКОГА ТУТ НЯМА?

З УСІМІ РАЗБОЙНІКАМІ І БАНДЫТАМІ, ЯКІЯ ШНЫРАЛІ НАВОКАЛ, ВЕЛЬМІ ДЗІЎНЫМ БЫЛО ЗНАЙСЦІ БАГАТУЮ СЯДЗІБУ... НАВАТ НАСТОЛЬКІ СТРУХЛЕЛУЮ... ПАКІНУТУЮ ЎСІМІ.
ДЫК ШТО Ж, МНЕ ЎЛАДЖВАЦЦА ТУТ ЯК ДОМА?

ПАКУЛЬ ЁН НЕ ЗАЗІРНУЎ У АПОШНЮЮ КУТКАВУЮ СПАЛЬНЮ ЎСХОДНЯГА КРЫЛА.
ЭГЕЙ!
ВОХ.
ДОБРЫ ДЗЕНЬ, СЭР. САРДЭЧНА ЗАПРАШАЮ Ў САРАМОР, ФАМІЛЬНАЕ ГНЯЗДО МАЁЙ СЯМ'І.

Я САЛІ КАРНВЕЛЕС.
ЭЭЭ... Я ДЖЭК. Я...
УЗНАГАРОДЖАНЫ ГЕРОЙ ВАЙНЫ? ТАК, Я ВЕДАЮ. Я ЧУЛА ВАС З ТАГО МОМАНТУ ВАШАГА ДАВОЛІ ШУМНАГА ПРЫБЫЦЦЯ.



У ТАКІМ ВЫПАДКУ ЧАМУ ВЫ НІЧОГА НЕ **АДКАЗАЛІ?**
ЮНАЯ ЛЭДЗІ З ДОБРАГА РОДУ НЕ ВЫКРЫКВАЕ СВАЁ ВІТАННЕ НІБЫ НЕВУЦКІ **ХУЛІГАН**.




ТАДЫ ЧАМУ ВЫ НЯ ВЫЙШЛІ, КАБ **ЯК СЛЕД** МЯНЕ ПАВІТАЦЬ?
ТАМУ ШТО ЗНЯСІЛЬВАЮЧАЯ **ХВАРОБА** АДОЛЕЛА МЯНЕ І Я НЕ МАГУ ЎСТАЦЬ СА СВАЙГО ЛОЖКА.




ТЫ ХВОРАЯ?
НЯ БОЙЦЕСЯ. ГЭТА НЕ ЗАРАЗНА. ПРЫНАМСІ РАНЕЙ ЯНА ЗАКРАНАЛА ТОЛЬКІ МАІХ СЯМЕЙНІКАЎ.
ДЗЕ ЯНЫ? ДЗЕ ВАША СЯМ'Я?
УСЕ ЎЖО ПАКІНУЛІ ГЭТЫ СВЕТ. АХВЯРЫ ТОЙ Ж СМЯРОТНАЙ ХВАРОБЫ. Я АПОШНЯЯ З ГАЛІНЫ КАРНВЕЛЕС.




НІВОДНЫ ДЖЭНТЛЬМЭН НЯ **ЎЗЯЎ** МЯНЕ, ВЕДАЮЧЫ, ШТО МОЙ СТАН БУДЗЕ ПАГАРШАЦЦА, ПАКУЛЬ Я НЕ БЫЛА ПАКІНУТА ТАК.
У НАС РЭПУТАЦЫЯ ПРАКЛЯТЫХ. Я ЗДЗІЎЛЕНА, ШТО ВЫ БЫЛІ ДАСТАТКОВА ХРАБРЫ, КАБ РЫЗЫКНУЦЬ ПРЫЙСЦІ Ў НАШЫ ЗЕМЛІ. ПРА НАС ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ЯК ПРА АПАНТАНЫХ, ВЫ НЯ ВЕДАЛІ?




А НЯВОЛЬНІКІ?
УСЕ ЎЖО ДАЎНО ЎЦЯКЛІ ЦІ БЫЛІ ПРАДАНЫ. МАЯ НЯНЬКА, ЗРАЗУМЕЛА, ЗАСТАЛАСЯ СА МНОЙ. ХРАБРАЯ І ПЭЎНАЯ НЯНЬКА. АЛЕ ЗАРАЗ АД СМЕРЦІ МЯНЕ АДДЗЯЛЯЮЦЬ ТОЛЬКІ ГАДЗІНЫ, Я ВЫЗВАЛІЛА ЯЕ ГЭТАЙ РАНІЦАЙ.


ВЫ ВЫРАЧАНЫ НА СМЕРЦЬ?
ПРАЗ ГАДЗІНУ ЦІ ДЗВЕ. НАЙХУТЧЭЙ ПЕРШ ЧЫМ НАСТУПІЦЬ НОЧ. Я ЎЖО ЗДАЛАСЯ. АПОШНІ БОЛЬ ПАКІНУЎ МЯНЕ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН ТАМУ.


ГЭТА ЖУДАСНЫЯ НАВІНЫ. ВЫ САМАЯ ПРЫВАБНАЯ ЖАНЧЫНА, ЯКУЮ Я КАЛІ-НЕБУДЗЬ СУСТРАКАЎ.
ВЫ ВЕЛЬМІ ПАХВАЛЬНЫ, СЭР.
ВЫ НЕ ПАВІННЫ ПАМІРАЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ НАВАТ НЕ ПАЧАЛІ ЖЫЦЬ.
МЫ НЯ МОЖАМ РАСПАРАДЖАЦЦА СВАІМ ЛЁСАМ.


ГЭЙ, Я ДУМАЮ, А НЕ ЖАДАЕШ АПОШНІ РАЗ ПАКЛОСЦІЦЦА? ПЕРШ ЧЫМ ЖНЯЯР ПРЫЙДЗЕ ЦЯБЕ ЗАБРАЦЬ?


У МЯНЕ НЕ БЫЛО ЖАНЧЫНЫ ТРЫ ГАДЫ, НЯ ЛІЧАЧЫ, ЗРАЗУМЕЛА, САМАДАЕК... І ПАКОЛЬКІ Ў ЦЯБЕ НЯМА ПЛАНАЎ НА ПОЎДЗЕНЬ...
ПРАБАЧЦЕ?
ВЫ ПРАПАНУЕЦЕ МНЕ ЎСТУПІЦЬ З ВАМІ Ў ЦЯЛЕСНУЮ СУВЯЗЬ? Я ЗБІРАЛАСЯ ПРЫЙСЦІ ДА МАЙГО БОГА ЦНАТЛІВАЙ! ВЫ НІЯКІ НЕ ДЖЭНТЛЬМЭН, СЭР!


І ДАЗВОЛЬЦЕ МНЕ ТАКСАМА ЗАЎВАЖЫЦЬ, ШТО ВЫ, ВІДАВОЧНА, ТАКСАМА І НЕ ПАЎДНЁВЫ ЧАЛАВЕК. ВАШ ПАДРОБЛЕНЫ АКЦЭНТ ПРЫХОДЗІЦЬ І СЫХОДЗІЦЬ ЧАСЦЕЙ ЧЫМ САКАВІЦКІ ВЕТРЫК.
АХ... ТАК,ДУМАЮ, Я ТАК ЗВЫКНУЎСЯ ТАМ ПЕРАЙМАЦЬ ГАВОРКУ ТВАІХ ЛЮДЗЕЙ, ШТО Я ЗАБЫЎСЯ АДМОВІЦЦА АД ЯЕ, КАЛІ ПАКІНУЎ ПЯХОТУ. І ШТО ГЭТА ТЫ КАЖАШ, «ПАДРОБЛЕНЫ»?


ВЕДАЙ, ШТО НЕКАЛЬКІ ЛЭДЗІ З НЬЮ-АРЛЕАНСКАГА ГРАМАДСТВА ЗНАЙШЛІ МЯНЕ ВЕЛЬМІ САПРАЎДНЫМ І ЧАРОЎНЫМ.
БЯССПРЭЧНА Ў ЯКАСЦІ ЗАБАЎНАЙ ПАЦЕХІ. КАЛІ ЛАСКА, БУДЗЬЦЕ ДАСТАТКОВА ПРАВІЛЬНЫМ І ПАКІНЬЦЕ МЯНЕ ДЛЯ МАЁЙ СУСТРЭЧЫ З ЦЁМНЫМ АНЁЛАМ.

ГЭЙ, ГЭТА ІДЭЯ!
ШТО ТЫ СКАЖАШ, КАЛІ Я ЗМАГУ ЎТРЫМАЦЬ СТАРЫЯ ДРЫНЬКАЮЧЫЯ КОСТКІ АД ТАГО, КАБ ЗАБРАЦЬ ЦЯБЕ?

НІ Ў КАГО НЯМА ТАКОЙ УЛАДЫ. ВЫ БЯЗЛІТАСНЫ ЧАЛАВЕК, КАЛІ СПРАБУЕЦЕ АДРАДЗІЦЬ МАЮ НАДЗЕЮ ДЗЕЛЯ ВАШАЙ ХВОРАЙ ЗАБАВЫ.
НЕ, Я СУР'ЁЗНА. ТЫ ЖАДАЕШ ЖЫЦЬ? ЯКУЮ ЎЗНАГАРОДУ ТЫ ГАТОВАЯ ДАЦЬ ЗА ЎЦЁКІ АД СМЕРЦІ СЁННЯ?

БЕЗУМОЎНА ЎСЁ, ШТО ПАЖАДАЕШ, АЛЕ...
ДАМОВІЛІСЯ!

СЯДЗІ ЦІХА, САЛІ, І ДАЗВОЛЬ МНЕ ЎСЁ ЗРАБІЦЬ САМАСТОЙНА, А ПАСЛЯ ПАМЯТАЙ ПРА НАШУ ЗДЗЕЛКУ. У МЯНЕ ДАЎНО НЕ БЫЛО ЖАНЧЫНЫ, І НІКОЛІ ТАКОЙ ПРЫВАБНАЙ ЯК ТЫ.


АГА, МІСТЭР ДРЫНЬ-КАЮЧЫЯ КОСТКІ! ВОСЬ ЗАРАЗ Я ЦЯБЕ ЗЛАВІЎ.
А?
КЛІКЕЦІ КЛОК! ХУТЧЭЙ У МОЙ МЯШОК!


WHOOOOOSH!


ТЫ ЗРАБІЎ ГЭТА, ДЖЭК! ТЫ ЗАХАПІЎ САМУ СМЕРЦЬ!
І, ВОЙ... Я ЗНОЎ МАГУ РУХАЦЦА. ПАРАЛІЧ ПРАЙШОЎ!
ЯК АДЧУ-ВАЕШ СЯБЕ, ДЗЯЎЧЫНКА?
ЦУДОЎНА. ВЫДАТНА.


ЗНОЎ Я ГЕРОЙ ДНЯ. ЗАРАЗ Я ПАТРАБУЮ МАЁЙ ГЕРОЙСКАЙ УЗНАГАРОДЫ.
ФУУУУУУУУ.
Я ВЕДАЮ, ШТО МНЕ ТРЭБА РАБІЦЬ, І Я НЕ АДМОЎЛЮСЯ АД МАЁЙ ЗДЗЕЛКІ, АЛЕ...


...ЦІ МАГЧЫМА, КАБ ТЫ СПАЧАТКУ ПАЖАДАЎ ПРЫНЯЦЬ ВАННУ?
УСЁ, ШТО ТЫ ПАЖАДАЕШ, МАЯ САЛОДКАЯ.
















ЗРАБІ ГЭТА! НАЗАВІ МЯНЕ ПРАСТЫТУТКАЙ! **САМАДАЙКАЙ!**

Я ТАКАЯ **ДРЭННАЯ**! Я ТАКАЯ **БРУДНАЯ**!

БОГ УСЯВЫШНІ, САЛІ!

НЯ МОЖАШ ТЫ ХОЦЬ НА СЕКУНДУ **ЗАБІЦЬ ЗЯПУ**? ДАСТАТКОВА, КАБ ДАЦЬ МНЕ **КОНЧЫЦЬ**?

Я РАЗАБ'ЮСЯ, ПРОСТА СПРАБУЮЧЫ ПАСПЕЦЬ ЗА ТАБОЙ, ЖАНЧЫНА!


ВОХ, ДЖЭК, ЯКІ ЦУДОЎНЫ СВЕТ ТЫ АДКРЫЎ МНЕ.


КАЛІ ТЫ ЗМОЖАШ ПРАЦЯГНУЦЬ?
ТЫ МЯНЕ ПРОСТА **ЗАБІВАЕШ**. МНЕ ТРЭБА **ПАСПАЦЬ**.
КАЛІ Ў ЦЯБЕ ЗАСТАЛАСЯ СТОЛЬКІ **ЭНЕРГІІ**, ПАЙДЗІ ЗГАТУЙ МНЕ АБЕД... ЦІ ЗАРАЗ **СНЕДАННЕ**?


ІДЗІ ЗАБІ ШТО-НЕБУДЗЬ. МНЕ ПАТРЭБІЦЦА ШМАТ, КАБ АДНАВІЦЬ УСЁ, ШТО ТЫ Ў МЯНЕ ЗАБРАЛА. ДАВАЙ.
ХОПІЦЬ **ПАТРАБАВАЦЬ** З МЯНЕ. Я ІДУ.
РАЗБУДЗІ МЯНЕ, КАЛІ ЎСЁ БУДЗЕ ГАТОВА.


ДЗЮШ-КА.
ЦІ ЯЛАВІЧЫНА, ЦІ КУРАНЯ.
Я НЕ ПЕРАБОРЛІВЫ, ПАКУЛЬ ГЭТАГА ШМАТ.


ІДЗІ СЮДЫ!


ЗЛАВІЛА!

КУДДАХ!

СУПАКОЙСЯ, ДЗЯЎЧЫНКА. БОЛЬНА БУДЗЕ ТОЛЬКІ СЕКУНДУ.

КУДДАХ!

CHOP!
КУДДАХ!

КУДДАХ!

ІІІІІ!
ШТО ГЭТА ЗА ВЯДЗЬ-МАРСТВА?

ДЖЭК?

ДЖЭК?

ПРАЧНІСЯ, ДЖЭК?

САЛІ!

ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?

НІШТО НЕ ПАМІРАЕ, ДЖЭК.

ПАЙДЗІ ПАГЛЯДЗІ. ПАЙДЗІ ПАГЛЯДЗІ САМ.

ПАЧАКАЙ. СПЫНІ **ЦЯГНУЦЬ** МЯНЕ, ЛЯСНУТАЯ ТЫ БАБА!

БАЧЫШ ПРА ШТО Я, ДАРАГІ?

БОЖА МОЙ!

МУУУУ!

ХРРРУ!

ХРРРУ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

МУУУУ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

КУДДАХ!

ХРРРУ!




І Я ЛІЧУ, ЯНЫ ПРЫЙШЛІ ПАБАЧЫЦЬ ЦЯБЕ.

ДЖЭЭЭ-ЭК.

ДЖЭК.

ШТО ТЫ НАРАБІЎ, ДЖЭК?



Я НЕ **ВІНАВАТЫ**, ХЛОПЦЫ. НЕ ЗУСІМ. Я ПРОСТА ЖАДАЎ ВЫРАТАВАЦЬ ДЗЯЎЧЫНУ.
ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ЯЕ. ХІБА ВЫ Б НЕ ПАЖАДАЛІ ЗБЕРАГЧЫ ЯЕ АД СТАРЫХ КІПЦЮРОЎ І ДРЫНЬКАЮЧЫХ КОСТАК, КАЛІ Б МАГЛІ?
НЕ ПЕРАКЛАДВАЙ ГЭТА НА **МЯНЕ**, ДЖЭК. Я БЫЛА **ГАТОВАЯ** АДПРАВІЦЦА Ў АБДЫМКІ МАЙГО ШАНОЎНАГА ЗБАВІЦЕЛЯ.
ТЫ ЗНІШЧЫЎ **ЗВЫЧАЙНАСЦЬ** РЭЧАЎ, ДЖЭК.


СТОЙЦЕ! Я ДУМАЮ, ШТО ЯШЧЭ МАГУ ВЯРНУЦЬ УСЁ ДА ПРАВІЛЬНАГА.
ЧАКАЙЦЕ ТУТ! НЯ РУХАЙЦЕСЯ!


Я МАГУ ГЭТА **ВЫПРАВІЦЬ.**


УСЁ, ШТО МНЕ ТРЭБА ЗРАБІЦЬ...


ВЫХОДЗЬ АДСЮЛЬ, СПАДАР КОСЦІ.
СПЯШАЙСЯ, ДЖЭК, ЯШЧЭ **РЭЧЫ** НАДЫХОДЗЯЦЬ.


**ЖУДАСНЫЯ** РЭЧЫ.
WHOOOSH!
ЯК ТЫ ЗРАБІЎ ГЭТА СА МНОЙ?
ЗАРАЗ НЕ **ЗЛАВАЙЦЕСЯ**, СЭР. Я МАГУ **ЎСЁ** РАСТЛУМАЧЫЦЬ.













ТАК, МАЁ СОНЕЙКА?

МОЖАШ СПАЧАТКУ ПРЫНЯЦЬ ВАННУ?

АЛЕДЖЭК СТРАЦІЎ І КАХАНУЮ, І ЧАРОЎНЫ МЯШОК ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ТЫДНЯЎ З ГЭТАГА ДНЯ. ПРЫВАБНАЯ САЛІ ЎЦЯКЛА З ВАНДРУЮЧЫМ ПРАПАВЕДНІКАМ І БАРАБАНШЧЫКАМ-П'ЯНЧУГАЙ. І МЯШКОМ? МАБЫЦЬ ГЭТА КАЗКА, ЯКУЮ ТРЭБА РАСКАЗАЦЬ У НАСТУПНЫ РАЗ.

ДАЛЕЙ: АПЕРАЦЫЯ «ШАРП»